# Голас Радзімы

№ 49 (1983)
4 снежня 1986 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





Некалькі вышэйшых навучальных устаноў нашай рэспублікі рыхтуюць спецыялістаў для аграпрамысловага комплексу. Сярод іх Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі. Тут займаецца сёння пяць з палавінай тысяч студэнтаў. А ўсяго за час свайго існавання БІМСГ выпусціў са сваіх сцен звыш 16 тысяч маладых інжынераў.

НА ЗДЫМКУ: студэнты другога курса факультэта механізацыі БІМСГа Станіслаў КУДАШ, Васіль БАКУН, Таццяна КІСЛЯК.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

## СУСТРЭЧА М. СЛЮНЬКОВА З ВЫБАРШЧЫКАМІ

У сталіцы нашай рэспублікі адбылася сустрэча выбаршчыкаў Мінскай —Савецкай выбарчай акругі з дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР, кандыдатам у члены Палітбюро ЦК КПСС, першым сакратаром ЦК Кампартыі Беларусі М. Слюньковым. У сустрэчы прынялі ўдзел прадстаўнікі працоўных калектываў Першамайскага і Савецкага раёнаў беларускай сталіцы.

За паўтара месяца да сустрэчы ў працоўных калектывах былі вывешаны аб'явы аб ёй. У ходзе падрыхтоўкі дэпутату паступіла мноства пісьмаў і запісак, якія змяшчалі пажаданні і крытычныя заўвагі, накіраваныя на паскарэнне перабудовы, паспяховае вырашэнне вытворчых задач і сацыяльных пытанняў.

У прамове перад выбаршчыкамі М. Слюнькоў падрабязна спыніўся на праблемах паскарэння навукова-тэхнічнага прагрэсу, інтэнсіфікацыі вытворчасці, павышэння тэхнічнага ўзроўню і якасці выпускаемай прадукцыі, задачах, якія стаяць перад працоўнымі рэспублікі і горада Мінска па выкананню рашэнняў XXVII з'езда партыі, наступных пленумаў ЦК КПСС.

Былі закрануты некаторыя аспекты рэалізацыі ў рэспубліцы сацыяльнай праграмы, пытанні ідэалагічнай і палітыка-выхаваўчай работы, павышэння палітычнай актыўнасці, ініцыятывы і адказнасці, кампетэнтнасці і дзелавітасці кадраў.

М. Слюнькоў адказаў на пытанні выбаршчыкаў.

НА СЕСІІ ААН

## БЯСПЕКУ — УСІМ КРАІНАМ

У Першым камітэце Генеральнай Асамблеі ААН па пытанню «Аб стварэнні ўсеабдымнай сістэмы міжнароднага міру і бяспекі» выступіў міністр замежных спраў Беларускай ССР А. Гурыновіч. Ён заявіў, што сучасная абстаноўка патрабуе сінтэзу, абагульнення ідэй і мер як прапанаваных раней, так і новых для стварэння эфектыўна дзеючай усеабдымнай сістэмы міжнароднага міру і бяспекі.

Падрабязна спыніўшыся на асновах усеабдымнай сістэмы міжнароднай бяспекі, прапанаваных XXVII з'ездам КПСС, і раскрыўшы іх актуальнасць, А. Гурыновіч падкрэсліў, што Савецкі Саюз не на словах, а на справе даказвае сваю здольнасць дзейнічаць іменна ў духу гэтых асноў. СССР прыняў рашэнне не прымяняць ядзерную зброю першым. Увёўшы яшчэ ў жніўні 1985 года аднабаковы мараторый на ядзерныя выпрабаванні, СССР праяўляе ўвесь міжнародны год міру без ядзерных выбухаў.

Арганізацыя Аб'яднаных Нацый павінна прыняць выклік часу, адказаць на яго выпрацоўкай і адабрэннем асноўных прынцыпаў усеабдымнай сістэмы міжнароднага міру і бяспекі, якія служылі б арыенцірам для практычных дзеянняў усіх дзяржаў.

У заключэнне А. Гурыновіч выказаў надзею, што прадстаўлены дзяржавамі сацыялістычнай садружнасці, у тым ліку Беларускай ССР, праект рэзалюцыі па данаму пытанню знойдзе падтрымку ў дэлегацый. Яго прынясце Генеральнай Асамблеяй стане пачатковым укладам у распрацоўку асноўных прынцыпаў усеабдымнай сістэмы міжнароднага міру і бяспекі — адной з цэнтральных задач у сучасных міжнародных адносінах.

СХОДЫ

## СВЯТА ЮГАСЛАВІІ

Дружалюбныя адносіны, плённае супрацоўніцтва паміж СССР і СФРЮ ў розных сферах адпавядаюць інтарэсам савецкага і югаслаўскага народаў, служаць умацаванню міру. Аб гэтым гаварылася на ўрачыстым сходзе прадстаўнікоў працоўных Мінска, прысвечаным нацыянальнаму святу Югаславіі —Дню рэспублікі.

На сходзе выступіў намеснік міністра культуры БССР У. Скараходаў.

Цёпла сустрэлі прысутныя таксама і выступленне выкладчыка універсітэта г. Нові-Сад Г. Драгін, якая знаходзіцца на стажыроўцы ў Белдзяржуніверсітэце імя У. І. Леніна.

КАНФЕРЭНЦЫІ

## ПА ШЛЯХУ СУПРАЦОЎНІЦТВА

Супрацоўніцтва аднатыпных прадпрыемстваў ГДР і Беларусі садзейнічае паспяховаму выкананню вытворчых планаў, умацаванню дружалюбных сувязей паміж калектывамі працоўных. Аб гэтым гаварылася на справаздачна-выбарнай канферэнцыі рэспубліканскага аддзялення Савецкага таварыства дружбы з ГДР, якая адбылася ў Мінску.

Перад дэлегатамі выступіў генеральны консул ГДР у Мінску В. Янда.

Выбр... новы склад праўлення аддзялен... го старшынёй зноў стаў старшыня Дзяржкамвыда БССР М. Дзялец.

У той жа дзень генеральны консул ГДР у Мінску В. Янда ўручыў выбраным членам праўлення ганаровыя знакі Таварыства германа-савецкай дружбы.

МЕХАНІЗАЦЫЯ

## УНІВЕРСАЛЬНЫ АГРЕГАТ

Каналы сталі сёння неад'емнай дэталлю ландшафта ў любой зоне рэспублікі. Агульная даўжыня іх ужо перавысіла 150 тысяч кіламетраў. Меліяраваныя землі даюць гарантаваныя высокія ўраджаі, але і патрабуюць немалога клопату. Механізацыі многае паддавалася дрэнна — няма прастору для тэхнікі. Выйсце са становішча знайшлі вучоныя і канструктары Беларускага навукова-даследчага інстытута меліярацыі і воднай гаспадаркі. Ім удалося стварыць універсальны каналаачышчальнік. Ён практычна поўнасцю выключае ручную працу на рамонце меліярацыйных каналаў і доглядзе за імі. Цяпер на адным з асушаных балот пад Мінскам завяршаюцца выпрабаванні агрэгата.

АХОВА ЗДАРОЎЯ

## ДЫЯГНАЗ СТАВІЦЬ ЭВМ

Новае аддзяленне прафілактычных аглядаў адкрыта ў заводскай паліклініцы вытворчага аб'яднання «Гомсельмаш». Тут упершыню ў рэспубліцы будзе праводзіцца дыспансерызацыя насельніцтва па сістэме КАСМАН (комплексная аўтаматызаваная сістэма медыцынскіх аглядаў насельніцтва). Папросту — гэта новая методыка, якая дазваляе на падставе пытанняў, амбулаторна-паліклінічных абследаванняў з дапамогай дыягнастычных алгарытмаў выявіць захворванне ў ранняй стадыі па 16 асноўных профілях.

З дапамогай КАСМАН адзін урач і дзевяць сярэдніх медыцынскіх работнікаў, уключаючы аператара ЭВМ, могуць абследаваць за год 15-16 тысяч чалавек. За паўтары гадзіны з моманту прыходу пацыента ў паліклініку выдаецца ўсебаковая інфармацыя аб яго здароўі з указаннем, калі трэба, неабходных абследаванняў.

Новае аддзяленне — трэцяе па ліку ў заводскай паліклініцы камбайнабудаўнікоў. Тут ужо дзейнічаюць аддзяленні аднаўленчага лячэння, псіхатэрапіі.

РАСПРАЦОЎКІ

## ПАЛІМЕР СУПРАЦЬ «ПЫЛЬНАЙ БУРЫ»

«Вельмі высокая механічная трываласць» — такая ацэнка калійных угнаенняў гучыць некалькі незвычайна. І тым не менш, звышмоцныя гранулы, распрацаваныя вучонымі Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі АН БССР, Беларускага філіяла Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута галургіі і спецыялістамі вытворчага аб'яднання «Беларуськалій», ужо выпрабоўваюцца і атрымалі самыя добрыя водгукі аграхімікаў і работнікаў вытворчасці.

Звычайныя калійн... ўгнаенні патрабуюць многа клопату ...ры рабоце з імі. Здабыты пад зямлёй сільвініт, ледзь апынуўшыся на паверхні пачынае прагна паглынаць вільгаць, і калі не ўсачыць, то размолатая маса хутка ператвараецца ў маналіт. У той жа час высушаны да нормы, ён настолькі лятучы, што без рэспіратара на заключных аперацыях да абста...ання не падступіцца. Такая ж «пыльная бура» бушуе і пры пагрузцы.

Злучыць часцінкі сільвініту ўдалося з дапамогай аднаго з рэчываў, якое трапляе ў адходы пры варцы цэлюлозы. Пасля спецыяльнай апрацоўкі яго малекулы палімерызуюцца і ствараюць трывалы ўнутраны каркас для гранул.

МІЖНАРОДНЫЯ КОНКУРСЫ

## МІКРАРАЁН XXI СТАГОДДЗЯ

Якім быць мікрараёну XXI стагоддзя? Гэтае пытанне знаходзілася ў цэнтры ўвагі архітэктараў краін сацыялізму на творчай сустрэчы, што адбылася ў Мінску. Усе яны — удзельнікі аб'яўленага Саюзам архітэктараў СССР, Саюзам архітэктараў Беларусі і Мінскім гарвыканкомам адкрытага Міжнароднага конкурсу на забудову аднаго з перспектыўных мікрараёнаў горада.

І вось завяршыўся першы яго этап. Названы 15 пераможцаў, сярод якіх дойлідры з некалькіх гарадоў нашай краіны, а таксама з Румыніі, Балгарыі, Югаславіі і В'етнама. Прадстаўленыя імі эскізы вызначаюцца арыгінальнасцю задум, гарманічнасцю спалучэння архітэктуры з наваколным асяроддзем, прадуманасцю транспартных сувязей.

У час знаходжання ў Мінску аўтары праектаў азнаёміліся з тэрыторыяй, адведзенай пад будучы мікрараён, асаблівасцямі будаўнічай базы горада, дзеючымі будаўнічымі нормамі і правіламі.

Восенню наступнага года адбудзецца другі этап конкурсу. Ён вызначыць аўтара праекта-лаўрэата, які будзе запрошаны ў сталіцу Беларусі для непасрэднага ўдзелу ў рэалізацыі сваёй задумы.

ПРЭМІІ

## УЗНАГАРОДА САВЕЦКІМ ПАЭТАМ

Міжнародная прэмія імя Х. Боцева за 1986 год уручана беларускаму паэту і публіцысту Н. Гілевічу і ўкраінскаму паэту Д. Паўлычку. Яны прымалі ўдзел у прайшоўшай у Сафіі VI Міжнароднай сустрэчы пісьменнікаў пад дэвізам «Мір — надзея планеты».

У ЮНЕСКО

## ПЕРАДАДЗЕНА Ў ПАДАРУНАК

Пастаянны прадстаўнік БССР пры ЮНЕСКО В. Калбасін перадаў у падарунак бібліятэцы Парыжскай штаб-кватэры гэтай міжнароднай арганізацыі і ў сувязі з 40-годдзем ЮНЕСКО пяцітомную «Энцыклапедыю прыроды Беларусі», а таксама кнігі па гісторыі, культуры і мастацтву рэспублікі. Ад імя арганізацыі генеральны дырэктар ЮНЕСКО М'Боў выказаў вялікую ўдзячнасць за падарунак.

ТАВАРЫ ДЛЯ НАРОДА





**Наручныя гадзіннікі новага пакалення, створаныя ў вытворчым аб'яднанні «Інтэграл», спецыяльна распрацаваны пад поўнасцю аўтаматызаваную зборку. У цэху, дзе нараджаецца «Электроніка», ужо ўстаноўлена шэсць гібкіх робатызаваных комплексаў, шматпікімі маніпулятарамі якіх кіруе ЭВМ. К канцу пяцігодкі ўсе мадэлі гадзіннікаў, што выпускаюцца масавымі серыямі, будуць збірацца аўтаматамі.**

**Новы падыход даў магчымасць мінскім прыборабудаўнікам ушчыльную наблізіцца да ўзроўню вядучых замежных фірм. Плоскія хранометры новай мадэлі па таўшчыні зраўняліся з японскімі. Спецыялісты «Інтэграла» плануюць прымяніць плёначную тэхналогію стварэння мікрасхем, што яшчэ зменшыць габарыты вырабаў.**

**НА ЗДЫМКАХ: на робатызаваных комплексах ідзе зборка электронных гадзіннікаў; новыя электронныя гадзіннікі, якія выпускаюцца на «Інтэграле».**

НОВЫ САЎГАС

## НА МЕЛІЯРАВАНЫХ ЗЕМЛЯХ

Прынята рашэнне аб узвядзенні на меліяраваных землях беларускага Палесся новага саўгаса імя Аляксееўскага. Яго будаўніцтва пачнецца ў будучым годзе. Праектную дакументацыю распрацаваў інстытут «Саюзгіпрамеліяводгас». Агульная плошча зямель — амаль 6 800 гектараў. Цэнтрам гаспадаркі будзе пасёлак з дамамі прысядзібнага тыпу, школай, Домам культуры, гандлёвым комплексам і іншымі аб'ектамі. У баку ад жылой зоны размесціцца ферма на 3 тысячы кароў, памяшканні для гадоўлі цялушак.

У беларускім Палессі створана ўжо 19 новых саўгасаў, больш за 20 знаходзяцца ў стадыі будаўніцтва.

ЗОНА АСАБЛІВАЙ ЎВАГІ



**Зонай асаблівай увагі называюць у нас тэрыторыю, размешчаную ў 30-кіламетровым радыусе вакол Чарнобыльскай АЭС. Жыхары адсюль былі выселены ў больш бяспечныя, аддаленыя раёны. Там выраслі новыя пасёлкі. Сярод іх і пасёлак у калгасе «Светлы шлях» Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці, дзе пабудавана 50 дамоў.**

**НА ЗДЫМКУ: новы пасёлак у калгасе «Светлы шлях» Рагачоўскага раёна.**

*ЧЫТАЧЫ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ» АДКАЗВАЮЦЬ НА АНКЕТУ*

# ЗАХАВАННЕ МІРУ—НАШ АГУЛЬНЫ КЛОПАТ

Дарагія сябры! Я вельмі рады, што вы рэгулярна пасылаеце мне вашу газету, якую чытаю з вялікім задавальненнем і цікавасцю. Не так даўно я ўбачыў у ёй анкету, якая складаецца з шасці вельмі важных пытанняў, што цікавяць і непакояць усіх разумных людзей на нашай планеце. Менавіта пытанне аб тым, быць ці не быць жыццю на зямлі, стала ў наш час самым галоўным і актуальным сярод усіх іншых праблем чалавецтва. Я хачу адказаць на анкету «Захаванне міру — наш агульны клопат», каб падзяліцца сваімі меркаваннямі з іншымі чытачамі.

Нам добра вядома пра тыя крокі, якія робіць СССР у інтарэсах умацавання міру на планеце. Цяпер аб гэтым паведамляецца рэгулярна не толькі ў прагрэсіўнай прэсе краіны, дзе мы жывём, але і ў буйной буржуазнай прэсе. Хоць, на жаль, вельмі часта канструктыўныя прапановы Савецкага Саюза падаюцца ў гэтых газетах у скажоным выглядзе ці ім даюць такую расшыфроўку, якая выгадна для найбольш кансерватыўных і рэакцыйных элементаў ва ўрадзе ЗША, а таксама для гаспадароў ваенна-прамысловага комплексу Амерыкі. Нягледзячы на гэта ў многіх амерыканцаў, і не толькі тых, хто прытрымліваецца прагрэсіўных поглядаў, канструктыўныя прапановы СССР выклікаюць пазітыўныя водгукі.

Усе мае сябры, знаёмыя і я сам крытычна ставімся да сённяшняй палітыкі ЗША і іншых дзяржаў Захаду, накіраванай на працяг гонкі ўзбраенняў, мілітарызацыю космасу, падрыхтоўку да «зорных войнаў». Пераважная большасць грамадзян у ЗША разумее, што нястрымная гонка ўзбраенняў і вывад ядзернай зброі ў космас могуць у выніку прывесці народы нашай планеты да ядзернага канфлікту, які, несумненна, знішчыць увесь род людскі на зямлі.

Мы ўважліва пазнаёміліся з Заявай Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова ад 15 студзеня гэтага года і поўнасцю вітаем і падтрымліваем яе, таму што выдатна разумеем: у наш час адзіная выйсце з існуючага становішча ва ўсім свеце — гэта поўнае знішчэнне ўсёй ядзернай зброі да 2000 года. Сёння павінны зразумець усе, нават ворагі сацыялізму, што ў трэцяй сусветнай і апошняй у гісторыі чалавецтва тэрмаядзернай вайне не будзе ні пераможцаў, ні пераможаных. Вось чаму Заява Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова з'яўляецца не толькі канструктыўнай, але і вельмі гуманнай і высакароднай.

Да чарговай Заявы, зробленай М. С. Гарбачовым 18 жніўня, у якой ён паведаміў аб тым, што Савецкі Саюз мае намер прадоўжыць свой мараторый на ядзерныя выбухі да 1 студзеня 1987 года, мы ўсе, у тым ліку і я, аднесліся вельмі станоўча, таму што лічым, што з боку СССР гэты крок з'яўляецца найвялікшай уступкай ураду ЗША. На працягу 14 месяцаў савецкага маратория ўрад ЗША правёў больш за 20 ядзерных выбухаў, уключаючы апошні 16 кастрычніка ў штаце Нявада. Такім чынам, з гэтых фактаў нават малому дзіцяці зразумела, хто на самай справе хоча міру, а хто рыхтуецца да вайны.

Вядома, ёсць у нашай краіне людзі, уключаючы і некаторых служачых у амерыканск[illegible] урадзе, якія наўмысна распускаю[illegible] лжывыя чуткі пра тое, што нібыта маратoрый СССР на ядзерныя выбухі — гэта не што іншае, як савецкая прапаганда, і што, маўляў, СССР працягвае сакрэтна праводзіць на сваёй тэрыторыі ядзерныя выпрабаванні, якія нібыта нават сучасныя вучоныя-атамшчыкі і фізікі не ў стане праверыць. Але ўсе мае калегі з прагрэсіўных арганізацый ніколі не верылі такім ілжывым чуткам. Мы поўнасцю адхіляем іх, таму што ўсе чытаем не толькі газеты, але і сучасныя навукова-тэхнічныя кнігі і часопісы і нам усім ясна, што пры такой створанай чалавечым розумам тэхналагічнай апаратуры ўтаіць ядзерныя падземныя выбухі ад якой-небудзь дзяржавы на нашай планеце зусім немагчыма.

Мы не згодны з заявай НАТО, што дасягненне ваеннай перавагі над Савецкім Саюзам будзе нібыта садзейнічаць умацаванню міру. Згодныя з такой заявай НАТО могуць быць толькі гаспадары ваенна-прамысловага комплексу, якія на гонцы ўзбраенняў атрымліваюць гіганцкі матэрыяльны прыбытак, і яшчэ людзі, якія хварэюць на манію нянавісці да СССР.

Антываенны рух у ЗША, дзе мы жывём, сёння вельмі ўзмацніўся. Гэта выказваецца ў пратэстах амерыканскага народа, у шматтысячных дэманстрацыях супраць агрэсіўнай знешняй палітыкі амерыканскага ўрада. Акрамя дэманстрацый, мы вельмі часта склікаем мітынгі ў памяшканнях нашых прагрэсіўных арганізацый, дзе актыўна абмяркоўваем самае актуальнае пытанне цяперашняга часу — як зберагчы мір на зямлі. Тут мы збіраем добраахвотныя подпісы для петыцый, у якіх патрабуем ад нашага ўра[illegible] неадкладна спыніць шалёную гонку ўзбраенняў, а таксама спыніць умяшанне ва ўнутраныя справы іншых дзяржаў, якія сёння змагаюцца за сваё нацыянальнае і эканамічнае вызваленне. Для гэтай жа мэты мы складаем калектыўныя і індывідуальныя пісьмы з пратэстамі, якія дасылаем ад імя нашых арганізацый у кангрэс, а таксама ў Белы дом, самому прэзідэнту.

За апошнія гады ў нас стварылася вялікая маладзёжная група. Гэта так званая «Група грамадзянскага непадпарадкавання». Амерыканскія юнакі і дзяўчаты самым рашучым чынам праяўляюць сваю незадаволенасць у час дэманстрацый супраць знешняй палітыкі ЗША. За свае погляды яны гатовы ісці на арышт і турэмнае зняволенне. І гэтая з'ява сярод амерыканскай моладзі натуральная, таму што ў нас у ЗША з-за вялікага беспрацоўя — выніку той жа шалёнай гонкі ўзбраенняў і поўнай безадказнасці амерыканскага ўрада за лёсы моладзі — у амерыканскіх юнакоў і дзяўчат на сёння няма ніякай будучыні.

Тыя людзі, з кім мне даводзіцца сутыкацца, абсалютна не вераць у міф аб «савецкай ваеннай пагрозе», таму што яны дастаткова адукаваныя палітычна і выдатна ведаюць пра Дэкрэт аб міры, які быў абвешчаны У. І. Леніным адразу пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Гэта азначала, што новы Савецкі ўрад гатовы мірна суіснаваць і супрацоўнічаць з заходнімі капіталістычнымі краінамі. А весці вайну даводзілася СССР толькі тады, калі на яго нападалі. Савецкі Саюз першым ніколі не нападаў і не збіраецца гэта рабіць.

Вось чаму міф аб так званай «савецкай пагрозе» трэба прапагандаваць толькі тым, хто такім чынам хоча апраўдаць сучасную гонку ўзбраенняў. Астатнія ж амерыканцы зусім не вераць гэтай ілжывай прапагандзе.

**Аляксандр КРАШАНІННІКАЎ.**
ЗША.

«РУССКАЯ ТЕМА»
НА АМЕРИКАНСКОМ ТВ

# 2. СЕМЕНА НЕНАВИСТИ

Информационные и общественно-политические передачи ТВ США, похоже, и не пытаются создать какой-либо противовес тем антисоветским стереотипам, которыми постоянно бомбардируют американцев под видом «чистого развлечения». Информация (как жанр), становящаяся с каждым годом, вне всякого сомнения, более яркой, динамичной, зрелищной, остается предвзятой, однобокой, черно-белой, как только речь заходит о Советском Союзе.

В Москве насчитывается 30—40 штатных американских корреспондентов — это один из самых крупных пресс-корпусов в мире. И хотя каждая из трех коммерческих общенациональных сетей имеет здесь свои бюро, ее московские представители появляются на экране так редко, что рискуют оказаться забытыми и зрителями, и коллегами по профессии — не случайно в профессиональных кругах назначение тележурналиста в советскую столицу рассматривается как почетная ссылка для попавших в немилость к боссам телекорпораций.

Создается ощущение, что смысл пребывания репортеров в Москве сводится к выискиванию отрицательных явлений в советской действительности, заслоняющих смысл происходящих здесь огромных позитивных перемен. Если же информация из Москвы идет вразрез с целями пропагандистских кампаний, стоящие на вершинах информационных служб «вахтеры новостей» непременно хоронят ее под каким-либо благовидным предлогом.

О том, что общенациональные сети США, на долю которых приходится 70—80 процентов регулярной аудитории, не удовлетворяют интереса американцев к советской тематике, косвенно свидетельствует рост популярности альтернативных источников информации — местных станций и кабельных служб (и особенно — принадлежащей Теду Тернеру Си-эн-эн), которые чаще стали показывать выступления представителей советской прессы, науки, общественности.

Эти факты не остались незамеченными. Например, в массовом журнале коммуникационного магната Уолтера Анненберга «Ти-ви гайд» появились статьи, клеймящие советских ораторов как «проводников линии Кремля». Тележурналистам, берущим интервью у советских людей, рекомендовалось «идентифицировать» гостей студии так, чтобы зритель был настроен на критическое восприятие. Для острастки журналистов был создан прецедент. Когда Эй-би-си предоставила московскому публицисту Владимиру Познеру 7 минут для изложения советской точки зрения на обращение Рейгана «О положении страны», Белый дом немедленно «нажал» на сеть, и шеф ее отдела новостей в письме президенту США покаялся «в грехах», назвав выступление советского комментатора «отклонением от американского здравого смысла и присущих Эй-би-си стандартов беспристрастности». Недовольство Вашингтона вызвали и попытки общественной (некоммерческой) сети наладить с советским ТВ двусторонний обмен: бурное обсуждение вопроса о посылке делегации в Москву привело к отставке президента Корпорации общественного вещания Эда Пфистера, протестовавшего против превращения Пи-би-эс в правительственный орган.

Если верить «Голосу Америки» и другим пропагандистским американским рупорам, то антисоветские передачи возникают как бы сами собой — как продукт «объективного и беспристрастного» освещения происходящих в мире событий или «свободы творчества», отражающего господствующие в обществе настроения. Но кто и как создает эти настроения? История американского вещания накопила множество примеров того, как все журналистские и творческие свободы превращались в пустой звук по первому же звонку из Белого дома, ЦРУ, ФРБ, Пентагона или штаб-квартир могущественных корпораций.

Эскалация антисоветизма на американском телеэкране непосредственно связана с растущим влиянием на общественно-политическую жизнь, и средства массовой коммуникации в том числе, военно-промышленного комплекса. Недавно компания «Дженерал электрик» (та самая, на которую в 1954—1962 годах работал Р. Рейган, представляя по Эн-би-си еженедельную передачу «Театр Дженерал электрик») поглотила своего давнего конкурента «Радио корпорейшн оф Америка» вместе с принадлежащей ему сетью Эн-би-си. Спрашивается, могут ли журналисты Эн-би-си объективно освещать американо-советские отношения, когда концерн, в который они входят, производит ядерные боеголовки, моторы к истребителям и бомбардировщикам и рассчитывает на новые правительственные заказы по программе «звездных войн»?

Связанные с военно-промышленным комплексом корпорации могут влиять на телевизионную политику не только как владельцы отдельных органов информации, но и как крупнейшие рекламодатели. Коммерческая реклама — мощный рычаг контроля монополий над эфиром, и ее вклад в эскалацию антисоветизма на телеэкране не ограничивается 30-секундными перебивками с легко угадываемыми опознавательными знаками СССР. Моргано-дюпоновский концерн ИБМ, имеющий капиталовложения более чем в 100 странах, являясь единственным рекламодателем 3-часовой ретроспективы Эй-би-си «45—85», поддержал недавно «новую глобальную стратегию» Вашингтона. Главная мысль этого документального марафона, по словам [illegible]го продюсера Эва Вестин[illegible] [illegible]стоит в том, чтобы показать, как Соединенные Штаты «сдерживают мировой коммунизм военной силой, силой экономики и силой примера американского образа жизни». Естественно, имея такого спонсора, передача защищает «доктрину Рейгана» о достижении военного превосходства над Советским Союзом.

Корректируя политику средств массовой информации, Белый дом и военно-промышленный комплекс нередко действуют из-за кулис, через своих подручных. Это всевозможные политико-религиозные организации и ультраправые группы, стремящиеся столкнуть ТВ еще правее, на рельсы махрового антисоветизма маккартистского образца. Например, после демонстрации фильма «На следующий день», в сильной, впечатляющей форме напомнившего Америке об угрозе ядерной войны, представители организации «Точность в массовых средствах» пришли на собрание акционеров Эй-би-си, потребовав прекращения «коммунистической пропаганды» — т. е. «иных альтернатив» ответа на «советскую угрозу», кроме ядерной смерти. И именно тогда президент телесети обещал им сериал «Америка» (показ его запланирован на февраль 1987 года), изображающий разоренную, объятую страхом страну, управляемую советскими агентами через десять лет после оккупации США.

Имеется, таким образом, слишком много сил, мешающих телевидению США избавиться от «советофобии» — привычки видеть все советское через призму милитаристского мышления. Именно этим недугом главного для США массового средства информации и развлечения как раз и порождены чудовищные искажения и белые пятна в представлениях американцев об СССР.

**Николай ГОЛЯДКИН,**
**кандидат филологических наук.**

# КАРЫСЦЬ УЗАЕМНАЯ

Нядаўна калектыў гомельскага вытворчага аб'яднання «Вымяральнік» прымаў дэлегацыю народненага прадпрыемства «Электрапрыбор» з чэхаславацкага горада Пісека. Госці — сакратар парткома Павел Роўбала, старшыня прафкома Верка Даляжалава, электраманцёр Йозеф Блага — на працягу тыдня сустракаліся з прадстаўнікамі цэхаў і аддзелаў, знаёміліся з вопытам работы па ўкараненню аўтаматызаванай сістэмы кіравання вытворчасцю, вывучалі нарміраванне працы інжынерна - тэхнічных работнікаў.

У ходзе сустрэч былі падведзены вынікі сацыялістычнага спаборніцтва паміж працоўнымі калектывамі, распрацаваны план абмену рабочымі па метаду «ад станка — да станка». Быў расшыраны дагавор аб супрацоўніцтве двух прадпрыемстваў.

Абласное аддзяленне Таварыства савецка-чэхаславацкай дружбы вось ужо на працягу 20 гадоў уносіць свой уклад ва ўмацаванне сяброўскіх сувязей паміж працоўнымі Гомельскай і Паўднёвачэшскай абласцей. За гэтыя гады таварыства значна расшырылася і цяпер аб'ядноўвае 9 гарадскіх і раённых і 84 мясцовыя аддзяленні. Яны працуюць на прадпрыемствах прамысловасці, у будаўнічых арганізацыях, на транспарце, у калгасах і саўгасах, у навучальных установах. Дзейнасць кожнага з іх падпарадкавана адзінай мэце — усебакова садзейнічаць умацаванню брацкай дружбы паміж народамі дзвюх краін.



Это здание Минска наполнено музыкой, будто весенний лес птичьим гомоном. В Белорусской государственной консерватории имени Луначарского идут занятия. Сотни юношей и девушек осваивают музыкальное наследие великих композиторов и пробуют сами писать свои произведения. Пройдет время, и сегодняшние студенты понесут людям прекрасный свет музыки. Консерватория вышла в число ведущих музыкальных высших учебных заведений страны. Многих ее выпускников хорошо знают в братских республиках нашей страны и за ее пределами. Произведения белорусских композиторов находят своих почитателей и пользуются заслуженной популярностью у слушателей во всей стране.

**НА СНИМКЕ:** в классе фортепиано занятия с ассистентом-стажером **Л. ЗАПОРОЖЦЕВОЙ** проводит заслуженный работник высшей школы **И. ЦВЕТАЕВА.**

Фото **Н. ОМЕЛЬЧЕНКО.**

## ВСЕСОЮЗНЫЙ ЖУРНАЛ, ИЗДАЮЩИЙСЯ В МИНСКЕ

# «РАБОЧАЯ СМЕНА»

Журнал с незнакомым названием «Рабочая смена» принес от приятеля мой сын-старшеклассник. Сознаюсь, новое издание «зацепило» меня прежде всего неожиданной рубрикой «Спасательный круг». С нее я и начал. Конкретно — с письма подростка по имени Сергей. Он задавал конкретный вопрос: почему встречаются ребята, не всегда чуткие и современные, крепкие, способные совершить поступок, ответить за него, постоять и за себя, и за другого, и за идею?

Не предвосхищая подростковых же ответов на это письмо (их, я уверен, будет немало), сделаю одно признание. Дочитав до конца страницу «Спасательного круга», я было заподозрил редакцию журнала в уловке, хитром ходе, в предварительном отлаживании контактов с потенциальными читателями. В самом деле, как иначе могло попасть письмо Сергея в первый номер нового журнала? Как попали на 3-ю колонку той же рубрики выдержки из других читательских писем?..

Разгадка нашлась на обложке издания. Оказалось, что «Рабочая смена», пришедшая к нам как новый всесоюзный общественно-политический и литературно-художественный иллюстрированный журнал Центрального Комитета Всесоюзного Ленинского Коммунистического Союза Молодежи и Государственного комитета СССР по профессионально-техническому образованию, пережила второе рождение. До этого она издавалась в Белоруссии как бюллетень респуб[illegible]нского Госкомитета по пр[illegible]техобразованию. На первую встречу с молодежью всей страны она пришла обновленной, но и с доказательствами явной напрасности своей прошлой жизни: с собственной редакционной почтой. Со своим [illegible]цом, наконец: неспроста ве[illegible] журнал буквально от корки до корки читается с неослабевающим интересом. Первая примета этого лица — знание тех, кто относится к категории настоящей или потенциальной «рабочей смены» (от учащихся профессионально - технических училищ и старшеклассников средних школ до молодых рабочих), неподдельная симпатия к ним, уверенная ориентация в круге их забот, радостей, увлечений. Очень непохожие, разные, эти молодые люди разное ищут в книгах и журналах, в газетах, в передачах радио и телевидения. Но вот утверждение социологов: всех их роднит и объединяет активный интерес друг к другу, тяга к объединению, каких не знало предыдущее поколение в их возрасте. А раз так, можно предположить, что большинство читателей «Рабочей смены» не прошли мимо рассказа о жизни могилевского профтехучилища № 1. В этом «минигосударстве», расположенном на берегу Днепра, молодые люди не только в совершенстве овладевают сельскими профессиями, связанными с современной техникой, но имеют возможность заниматься в 18 кружках — от драматического до духовых инструментов или вязания.

В журнале хватило места для многих серьезных проблем, о которых говорит сегодня молодежь. Думаю, дело тут в прекрасной «наследственности» «Рабочей смены», в частности в пятилетней традиции саморедактирования ее молодежью. Связана эта практика с деятельностью так называемой малой редколлегии, объединяющей актив читателей журнала. Члены ее, собираясь ежемесячно, предлагают актуальные темы, открывают и ведут рубрики, обсуждают и комментируют статьи, отвечают на письма, приглашают в редакцию гостей: кому лучше знать, что интересует и беспокоит молодежь, как не самим молодым людям?

**Юрий ТЕМНИКОВ.**
(АПН).

## В ЗЕРКАЛЕ СОБЫТИЙ

**ЭТОТ ПАРК в Пинске создан молодёжью города, и потому решено назвать его именем предстоящего XX съезда комсомола. На бывшем трехгектарном пустыре разбиты аллеи, построены теннисные корты, высажены ели, дубки, клёны, другие деревья. С приходом весеннего тепла зашумит листвой самый молодой парк города.**

**В НОВОПОЛОЦКЕ прошел республиканский фестиваль политической молодежной песни, который был посвящен Международному году мира. В нём приняли участие вокально-инструментальные ансамбли, вокальные группы и солисты-исполнители из всех областей Белоруссии.**

**Новополоцк не случайно стал местом проведения фестиваля. Здесь сложились хорошие традиции эстетического воспитания подрастающего поколения. К тому же это один из самых молодых городов республики: и по возрасту жителей, и по своей истории.**

**МОЛОДЫЕ ГОЛОСА зазвучали в испытанных временем стенах бывшей Покровской церкви в Витебске — памятника зодчества XVIII века. Городской клуб любителей старины «Взгорье» пригласил всех желающих принять участие в восстановлении этого здания, частично разрушенного в годы войны. Трижды в неделю члены клуба — молодые скульпторы, художники, архитекторы — вместе с другими добровольцами помогают реставраторам.**

**СОВХОЗ имени XXVII съезда КПСС строится в Каменецком районе Брестской области. Возводит его молодежь. Здесь трудится 150 юношей и девушек из соседних районов, которые добровольно приехали на строительство этого объекта.**

**В МИНСКЕ завершился третий тур Всесоюзной олимпиады по теоретической механике «Студент и научно-технический прогресс», который проходил на базе Белорусского политехнического института. Представители 15 братских республик СССР, а также Москвы и Ленинграда — всего 57 студентов технических высших учебных заведений страны — участвовали в третьем туре олимпиады. Среди них и три белорусских студента.**

**ВИДЕОТЕКА открылась в городе Гродно. Здесь большой выбор полюбившихся молодежи фильмов отечественного и зарубежного кинематографа.**

**МИТИНГ ДРУЖБЫ состоялся в Белорусской сельскохозяйственной академии. В нём приняли участие студенты из Азии, Африки и Латинской Америки, которые учатся в этом учебном заведении.**

## УЧЕНЫЙ В ПРОВИНЦИИ: ЕСТЬ ЛИ ПЕРСПЕКТИВА!

# СЛУЧАЙ ВОВСЕ НЕ УНИКАЛЬНЫЙ

Самый первый вопрос, который я задал Игорю Семченко после знакомства, должен был помочь выяснить главное: есть ли в Гомеле хорошие условия для работы, а, значит, и перспектива для талантливого человека.

Я спросил у Игоря, есть ли у него желание уехать сейчас из Гомеля, например, в Минск, в институт физики, и работать рядом с такими видными учеными, как Борисевич или Федоров, авторами открытий в науке, имена которых знает сегодня весь ученый мир.

— Нет,— был ответ. И он, признаться, меня поначалу удивил. Но только поначалу...

Кто же такой Игорь Семченко?

27-летний преподаватель Гомельского государственного университета, иными словами, молодой ученый, работающий в провинции. Правда, любой гомельчанин, услышав такое о своем городе, обязательно возразит мне и скажет, что Гомель сегодня — это крупный областной центр с полумиллионным населением. Но для ученого это все же провинция, потому что нау[illegible] центром нашей республ[illegible] является ее столица, Минск, где находится Академия наук БССР.

Игорь Семченко в Гомеле родился и вырос. В девятом классе увлекся физикой. Так был сделан выбор — после ок[illegible]ния школы он поступил [illegible]ться на физический факультет Гомельского государственного университета.

Игорь — общительный человек, и я с интересом слушаю:

— Наш университет молодой, мне тогда приходилось слышать, что, имея перед собой большую цель, нужно идти учиться в давно завоевавшие авторитет университеты — Московский, Ленинградский, Киевский, Белгосуниверситет. Сейчас могу засвидетельствовать, что и в Гомельском очень высокий уровень теоретической подготовки. Уже на третьем курсе студенты в соответствии с программой обучения имеют все возможности проявить себя в исследовательской работе...

Кандидатом физико-математических наук Семченко стал в двадцать пять. Случай вовсе не уникальный. Два года назад наша газета рассказывала о минчанине Андрее Рапинчуке, который написал кандидатскую диссертацию по математике, когда ему было 22 года.

— Вот это да! — согласно восклицает Игорь. — Даже в мировой истории не очень много найдется людей с такой ранней научной зрелостью. Я в двадцать два был всего лишь студентом-пятикурсником. Как все...

Так ли это, как все?

— Нет, не совсем,— возразил потом научный руководитель И. Семченко Анатолий Сердюков, человек, сыгравший, по словам самого Игоря, огромную роль в его сегодняшней судьбе. — Семченко выделялся среди остальных студентов.

Игорь Семченко — оптик, его кандидатская диссертация была посвящена проблемам исследования оптических свойств жидких кристаллов. Тема эта была взята им неспроста. На сегодняшний день в Гомеле сложилась очень сильная в стране школа ученых физиков-оптиков, возглавляемая ректором университета академиком АН БССР Борисом Богусем.

Семченко — один из самых молодых ее учеников. И, как считает Анатолий Сердюков, заведующий университетской кафедрой «Оптика», один из самых способных. В прошлом году Игорь стал лауреатом областной премии Ленинского комсомола, присуждаемой лучшим молодым рабочим, колхозникам, представителям творческой интеллигенции. Кстати, лауреатами стали и два его торища, с которыми вместе учился в аспирантуре после окончания высшего учебного заведения: Виктор Мышковец, тоже преподаватель ГГУ, и преподаватель Мозырского педагогического института Георгий Митюрич. Коллектив молодых физиков был отмечен этой почетной премией за цикл совместных научных работ по жидким кристаллам. Вот так школа Бориса Богуся распространяется сейчас еще глубже в провинцию, ее воспитанники с успехом, как видим, работают и в Мозыре, районном центре.

Мой собеседник не только общительный человек, но и увлекательный рассказчик.

— Физика, как известно, — делится он мыслями,— наука древняя. Но и теперь в ее глубинном мире есть очень много больших и маленьких тайн. Установить новые объективно существующие закономерности, явления или свойства материального мира, которые внесли бы коренные изменения в уровень познания, т. е. совершить открытие сегодня, конечно, необычайно трудно. И тем не менее в каждом из моих коллег-ученых живет такая мечта...

Наука, которой занимается Игорь Семченко, носит прикладной характер. Его исследования в перспективе найдут применение на предприятиях электротехнической промышленности СССР. Например, в технологических операциях по сварке и контролю качества поверхностей, в создании устройств для определения температурных полей.

— В аспирантуре,— рассказывает Игорь,—я занимался только наукой. Теперь же на преподавательской работе шесть часов в день я отдаю занятиям со студентами да еще два-три часа вынужден уделять административным вопросам, так как меня назначили заместителем декана физического факультета.

В связи с ожидающейся в СССР перестройкой высшей школы занятость моего собеседника, как преподавателя и заместителя декана, сейчас, конечно, очень высокая. Перестройка предполагает большие изменения в организации учебного процесса советских студентов, и эти изменения будут касаться всех без исключения высших учебных заведений страны.

И все же Игорь умудряется три часа в сутки выкраивать для науки, лабораторных исследований и теоретических расчетов. Причем, регулярно, шесть раз в неделю. Для полного отдыха пока предназначен у него только один день, воскресенье, которое он обязательно проводит с семьей — женой и двухлетним сыном.

**В. ГРАМЧУК.**

